



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

26 чэрвеня 2020 года №26 (1313) 18+




# Ля муроў Крэўскага замка зладзілі фотавыставу

## Яе стварылі мясцовыя актывісты




старонка 2

На фотаздымках Сяргея Тапона — жыццё Крэва, якое турыст не пабачыць падчас экскурсіі. Фота Сяргея ТАПОНА.





## Як прайшлі суды ў Маладзечне пасля «ланцуга салідарнасці»

старонка 8





## Пенсіянеры з Чысці расказалі, чаму хацелі б увайсці ў склад выбарчых камісій

старонка 19

ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# «Ты – Крэву, Крэва – табе»

## Ля сцен Крэўскага замка з’явілася выстава фотаздымкаў

**Днямі ля сцен Крэўскага замка з’явілася фотавыстава. Вакол старажытных муроў на адмысловых шчытах – вялізныя фотаздымкі. А на іх – сюжэты з сучаснага жыцця Крэва: вяскоўцы, рака Крыўлянка, свойскія жывёлы… Творчую ідэю ўвасобіў жыхар Крэва фатограф Сяргей Гапон.**

СМАРГОНЬ

### На фота турыст убачыць тое, што не заўважыць падчас экскурсіі

Па словах Сяргея, вулічныя выставы, як і іншыя імпрэзы, – звычайная практыка не толькі еўрапейскіх гарадоў, але і мястэчак.

– На жаль, у нашай краіне вялікія культурніцкія ініцыятывы рэалізуюцца, як правіла, выключна ў вялікіх гарадах. Пры такім падыходзе складана казаць пра нейкае раўнаважнае развіццё культуры ў рэгіёнах. Павінна быць дэцэнтралізацыя. Наша актыўнасць у Крэве – спроба пайсці гэтым шляхам, – распавядае фатограф.

У экспазіцыю ўвайшло 18 фатаграфій, зробленых Сяргеем на працягу апошніх пяці гадоў. Суразмоўца падкрэслівае: гэта выстава – не прэзентацыя яго як фатографа. Гэта – партрэт Крэва.

– І не проста замак-царква-касцёл, – працягвае Сяргей. – Калі турыст прыехаў у мястэчка, гэта можна і ўжывую паглядзець. Таму дубліраваць няма сэнсу. На фатаграфіях я спрабаваў паказаць жыццё ў гэтых шыкоўных дэкарацыях, якое амаль немагчыма ўбачыць за гадзіну падчас экскурсіі: вясковец пасе гусей, яблыкі плывуць па рацэ, зорны дождж над замкавымі руінамі…

На думку Сяргея, на выставе гледачы стануць сведкамі мікрагісторый з мястэчка, якое залатымі літарамі ўпісанае ў старонкі сусветнай гісторыі.

> **Адмыслова для выставы фатограф нічога не здымаў. Гэта хутчэй лагічны працяг яго працы ў Крэве.**

### Праект стварылі пераважна сіламі мясцовых

Разам з сябрамі Сяргей стварае фестываль-майстэрню Kreva Create. Гэта серыя культурных, адукацыйных і рэстаўрацыйных падзей, якія павінны дапамагчы актывістам прыцягнуць увагу дзяржавы і інвестараў да мястэчка, вярнуць Крэва на турыстычную карту Беларусі, а таксама вярнуць людзей у мястэчка.

> **– Разам з творчымі людзьмі мы ствараем новы турыстычны прадукт на аснове крэўскай спадчыны, – кажа суразмоўца. – Выстава – якраз адна з форм узаемадзеяння з прасторай.**




Фота Сяргея ГАПОНА.

Крэўскія хлопчыкі прыехалі паглядзець, як манціруецца выстава, і ўбачылі сябе.

Сяргей прызнаецца, што сярод усіх фотаздымкаў у яго ёсць любімы – навальніца ў Крэўскім замку.

– Сядзеў у варонцы ад снарада часоў Першай сусветнай вайны пасярод замкавага двара, а над галавой бліскалі маланкі! На гадзінніку амаль поўнач, а руіны як днём стаялі! – прыгадвае творца гісторыю стварэння фота.

Усе сродкі на выставу Сяргей збіраў на платформе MolaMola. Адзначае, для яго вельмі важна, што гэты праект рэалізаваны пераважна сіламі мясцовых: значная частка донараў – з Крэва і суседніх вёсак ды гарадоў. Металічныя каркасы дапамог зварыць **Іван Міхайлоўскі**, да месца экспазіцыі на сваім трактарчыку прывёз карціны **Віктар Губіч**.

Сяргей разам з сябрам **Юрам Высоцкім** восем гадзін пякліся на 30-градусным сонцы, манціруючы ўсе канструкцыі.

– Шчырая падзяка кожнаму, хто далучыўся да праекта рублём ці простым лайкам і рэпостам у сацсетках.

> **Некалькі чалавек, якія ўвогуле ніколі не былі ў Крэве, па ўласнай ініцыятыве разгарнулі сапраўдную піяр-кампанію.**

У выніку сабралася болей за тысячу долараў, – працягвае Сяргей.

Асноўная сума пайшла на друк фатаграфій. Яны зробленыя на банернай тканіне, якая вытрымае і дождж, і сонца, і снег.

### Героі фота прыехалі паглядзець на сябе

Па заканадаўстве замак і тэрыторыя побач – ахоўная зона гісторыка-культурнай каштоўнасці. Таму стваральнікі выставы былі абавязаныя атрымаць дазвол на яе мантаж. Улады пайшлі насустрач. Ды і чаму не, лічыць Сяргей. Гэты праект накіраваны на паляпшэнне турыстычнага іміджу Крэва. Будуць турысты – будуць і грошы, якія застануцца ў мясцовай кавярні ці магазінах, а значыць, будзе і надзея на далейшае развіццё.

Сяргей пакуль не меў магчымасці паназіраць, якія эмоцыі выклікае выстава ў гледачоў. Але пакуль развешвалі карціны, выпадкова на веласіпедах прыехалі адразу ўсе героі аднаго здымка: тры хлопцы, што на фота гуляюць у футбол.

– Вядома, калі ты бачыш сябе на фатаграфіі памерам у свой рост, гэта ўражвае!

Фотаздымкі застануцца ля замка як мінімум да наступнай вясны. Стваральнікам вельмі б хацелася, каб і замежжоўцы змаглі пабачыць выставу.

Сяргей верыць: фатаграфіі павінны ўлюбіць турыстаў, ды і мясцовых, у Крэва.

– Калі мястэчка стане для кожнага каханай дзяўчынай, у галаве назват не будзе думак, ці варта клапаціцца пра яго. Гэта так крута – адчуваць кругазварот энергіі: ты – Крэву, Крэва – табе.



Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




За год запушчаныя ў вадасховішча лічынкі сома павінны стаць 20-сантыметровымі рыбінамі.

# Вілейскае вадасховішча зарыбілі сомам

ВІЛЕЙКА

**19 чэрвеня на Вілейскім вадасховішчы правялі зарыбленне лічынкай сома.**

У вадасховішча выпусцілі 750 тысяч лічынак сома звычайнага. Зарыбілі вадаём за грошы, атрыманыя ў якасці ўнёскаў ад сяброў арганізацыі, паведамляюць у Беларускім таварыстве паляўнічых і рыбаловаў.

Як паведамляюць спецыялісты, ужо ў першы год з лічынкі павінна вырасці рыба да 20 сантыметраў у даўжыню. Сом расце вельмі хутка. Асабліва актыўны рост працягваецца ў першыя пяць-шэсць гадоў.

**Цікавыя факты пра сома**

• Сом – самая буйная рыба ў беларускіх вадаёмах;

• самых вялікіх у Беларусі сомаў лавілі ў Дняпры. Яны дасягалі ад 30 да 96 кілаграмаў;

• у гэтай рыбы няма лускі. Цела пакрытае мяккай скурай, якая выдзяляе шмат слізі;

• афарбоўка сома залежыць ад умоў пражывання, узросту і пары года. Часцей ён жоўта-зялёны, жывот – белы. Маладыя самы больш яркія. Сустракаюцца і рыбы-альбіносы;

• сом вядзе адзіночны лад жыцця, рэдка адплывае далёка ад пастаяннага месца жыхарства. Дзясяткі гадоў ён круглы год можа знаходзіцца ў адной і той жа яме;

• найбольш актыўны сом увечары і ноччу. Днём нерухома адпачывае ў сваім прытулку;

• рыба вельмі адчувальная да холаду і залягае на зімоўку раней за іншых рыб;

• сом не любіць шмат і хутка плаваць, таму здабычу пільнуе з засады. Ужо ў першы год харчуецца рыбай. Часам ловіць здабычу на свае вусы, якія для іншых рыб падобныя да чарвякоў і з'яўляюцца прынадай;

• вядомыя выпадкі, калі сом нападае на вадаплаўных птушак і сабак, якія пераплываюць вадаём;

• калі сом трапляе на кручок, ён вельмі супраціўляецца. Каб яго злавіць, патрэбны рыбацкі досвед і спрыт.

Нагадаем, што па інфармацыі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы раслліннага і жывёльнага свету сома забаронена лавіць ад 31 мая да 1 ліпеня.

**Аддзел інфармацыі.**

## Былы дырэктар лясгаса цяпер кіруе філіялам КУП «Мінаблпаліва»

ВІЛЕЙКА

Пра гэта карэспандэнту расказалі ў аддзеле кадравай работы Вілейскага райвыканкама.

Новы кіраўнік філіяла КУП «Мінаблпаліва» ў Вілейцы – **Андрэй Худалей**. У былога кіраўніка прадпрыемства скончыўся кантракт.

Як распавялі ў аддзеле, Андрэй Худалей раней кіраваў Вілейскім доследным лясгасам. Адтуль ён звольніўся па пагадненні бакоў.

КУП «Мінаблпаліва» забяспечвае дрывамі і торфабрыкетам насельніцтва, установы сацыяльнай сферы і іншых спажыўцоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На станцыі пералівання будуць правяраць донарскую кроў на каронавірус

МАЛАДЗЕЧНА

Правяраць донарскую кроў на COVID-19 пачнуць на базе Мінскай абласной станцыі пералівання крыві ў Маладзечне.

Ужо месяц тут даследуюць пробы біяматэрыялу жыхароў, у якіх падазраецца каронавірус. Донарскую кроў пачнуць правяраць ад 1 ліпеня.

**Уладзімір Світо**, галоўны доктар Мінскай абласной станцыі пералівання крыві, расказаў:

– Мы пачалі ад 22 мая тэсціраваць метадам высокадакладнай дыягностыкі той матэрыял, які паступае з медыцынскіх устаноў Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага і Валожынскага раёнаў. Мы ўжо правялі больш за дзве тысячы даследаванняў.

Працуючы з матэрыялам, медыкі цалкам абароненыя. Без спецыяльных касцюмаў яны не могуць увайсці ў «брудную зону».

У лабараторыі нядаўна зрабілі рамонт, усталявалі сучаснае высокатэхналагічнае абсталяванне. Цяпер 120 тэстаў можна праверыць за змену, а праз суткі вынікі паступаюць у медыцынскую ўстанову.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

## Ад 1 ліпеня пенсіі вырастуць на шэсць працэнтаў

**Аляксандр Лукашэнка** 20 чэрвеня падпісаў указ №232 «Аб павышэнні пенсій». Тэкст дакумента афіцыйна апублікаваны на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Пенсіі павысяцца на шэсць працэнтаў ад 1 ліпеня.

Іх павысяць за кошт сродкаў дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Беларусі. 20 чэрвеня Лукашэнка анансаваў гэты ўказ.

«Пенсія, вядома, невялікая. Што маем, то маем. Але я ўчора ўрад папрасіў. У нас дзесьці ў чацвертым квартале планавалі павысіць. Тым не менш, я папрасіў, каб перанеслі тое павышэнне сюды. У нас крыху ёсць грошай. Мы павінны ветэранам, пенсіянерам дапамагчы. Наколькі гэта магчыма. Гэта не папулізм, не дзеля нейкіх выбараў, я ніколі гэтага не рабіў», – сказаў Аляксандр Лукашэнка.

**Паводле pravo.by.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**609**

столькі бальніц працавала ў Беларусі ў 2019 годзе

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 18.06 | 25.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 2.3812 | **2.3726** |
| **Еўра** | 2.6831 | **2.6805** |
| **Злоты, 10** | 6.0092 | **6.0283** |
| **Расійскі рубель, 100** | 3.4232 | **3.4407** |
| **Грыўня, 100** | 8.8892 | **8.8995** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **17.06** | **24.06** |
| **Еўра** | 2.6500/2.7500 | **2.6100/2.7100** |
| **Долар ЗША** | 2.3400/2.4100 | **2.3400/2.4100** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 17.06 | 24.06 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| **Кілбаса «Мядовая», 1 кг** | 20,00 | **20,00** |
| **Кураня-бройлер, 1 кг** | 3,25 | **3,25** |
| **Сасіскі «Малочныя», 1 кг** | 7,80 | **7,80** |
| **Свініна (выразка), 1 кг** | 9,50 | **9,50** |
| **Карп жывы, 1 кг** | 5,20 | **5,20** |
| **Мінтай свежамар., 1 кг** | 6,20 | **6,20** |
| **Скумбрыя с/с, 1 кг** | 10,50 | **10,50** |
| **Скумбрыя х/в, 1 кг** | 16,80 | **16,80** |
| **Грэчка, 0,8 кг** | 1,90 | **1,90** |
| **Рыс, 0,8 кг** | 1,50 | **1,50** |
| **Алей, 1 л** | 1,79 | **1,79** |
| **Кава «Nescafe», 100 г** | 4,90 | **4,90** |
| **Маянэз, 400 г** | 2,00 | **2,30** |
| **Соус «Мінскі», 0,5 л** | 1,60 | **1,60** |
| **Шпроты, бляшанка, 160 г** | 1,85 | **1,85** |
| **Яйкі курыныя, 1 дз.** | 1,80 | **1,80** |
| **Агуркі, 1 кг** | 2,00 | **2,00** |
| **Бульба маладая, 1 кг** | 2,00 | **0,90** |
| **Буракі маладыя, 1 кг** | 2,00 | **2,00** |
| **Капуста, 1 кг** | 1,00 | **1,00** |
| **Капуста пекінская, 1 кг** | 2,20 | **2,20** |
| **Морква, 1 кг** | 1,00 | **1,50** |
| **Памідоры, 1 кг** | 3,90 | **3,90** |
| **Перац, 1 кг** | 6,80 | **6,80** |
| **Радыс, пучок** | 2,50 | **2,50** |
| **Цыбуля рэпчатая, 1 кг** | 1,50 | **1,50** |
| **Часнок, 1 кг** | 6,90 | **6,90** |
| **Апельсіны, 1 кг** | 5,00 | **5,00** |
| **Бананы, 1 кг** | 3,50 | **3,50** |
| **Вінаград, 1 кг** | 6,00 | **6,00** |
| **Гранат, 1 кг** | 6,00 | **6,00** |
| **Грушы, 1 кг** | 3,90 | **3,90** |
| **Ківі, 1 кг** | 5,50 | **5,50** |
| **Клубніцы, 1 кг** | 12,00 | **12,00** |
| **Лімон, 1 кг** | 4,90 | **4,90** |
| **Мандарыны, 1 кг** | 3,00 | **3,00** |
| **Персікі, 1 кг** | 6,00 | **6,00** |
| **Чарэшні, 1 кг** | 12,00 | **12,00** |
| **Яблыкі, 1 кг** | 2,99 | **3,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако, 1,5 л** | 1,50 | **1,50** |
| **Масла, 1 кг** | 15,00 | **15,00** |
| **Сала, 1 кг** | 13,00 | **13,00** |
| **Сыр, 1 кг** | 12,00 | **12,00** |
| **Тварог, 1 кг** | 7,00 | **7,00** |
| **Яйкі, 1 дзясятак** | 3,00 | **3,00** |

## Знішчылі поле маку памерам каля гектара

**МЯДЗЕЛ**

Супрацоўнікі наркакантролю Мядзельскага раёна знайшлі поле маку без прыкмет культывацыі. Плантацыя размешчаная паблізу вёскі Шыкавічы, на беразе возера Баторына. У агульнай складанасці скасілі і знішчылі каля 950 кілаграмаў забароненай расліны.

– Забароненая расліна займала плошчу каля гектара. Праз гадзіну пасля звароту міліцыянераў на сельгаспрадпрыемства, за якім замацаваная зямля, дзе рос мак, на месца адразу ж прыехала спецыяльная тэхніка для пакосу і знішчэння, – распавёў начальнік Упраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі УУС Мінскага аблвыканкама **Сяргей Белавушка**.

Міліцыя нагадвае, што за пасеў або вырошчванне забароненых да апрацоўкі раслін ці грыбоў, якія змяшчаюць наркатычныя сродкі або псіхатропныя рэчывы (арт.16.1 КаАП Рэспублікі Беларусь), правапарушальніку пагражае штраф у памеры да 20 базавых велічынь – да 540 рублёў.

Па гэтай прычыне міліцыя папярэджвае: калі вы заўважылі на тэрыторыі свайго ўчастка пасевы маку або канапель, пазбаўцеся ад раслін. Акрамя таго, вырошчванне маку або канапель без мэты збыту караецца буйным штрафам, а за вырошчванне раслін з мэтай збыту прадугледжаная крымінальная адказнасць. Калі вам вядома аб незаконных пасевах наркатычных раслін, паведаміце аб гэтым па тэлефоне **102**.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Гарэў будынак, які не выкарыстоўваўся

**МАЛАДЗЕЧНА**

16 чэрвеня ў 21:30 на нумар 101 Маладзечанскага ГРАНС па надзвычайных сітуацыях паступіла паведамленне пра пажар у Маладзечне па вуліцы 17 Верасня.

Пасля прыбыцця да месца выкліку выратавальнікаў ўстанавілі, што гарыць неэксплуатаваны аднапавярховы будынак. Пажар знішчыў столь, закурыў сцены, пашкодзіў маёмасць. Прычыну высвятляюць. Пацярпелых няма.

**МНС папярэджвае**: прычынай многіх надзвычайных сітуацый з'яўляецца безадказнасць чалавека і невыкананне правілаў пажарнай бяспекі. У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары **101** або **112**, не забывайчы ўказваць адрас і месца пажару.

**Аддзел інфармацыі.**

## Кіроўца стаміўся і заснуў за рулём

**ВАЛОЖЫН**

17 чэрвеня ў 04:20 на 91 кіламетры аўтадарогі Мінск-Ашмяны-мяжа Літоўскай Рэспублікі, у Валожынскім раёне, перакуліўся мікрааўтобус.

32-гадовы ўраджэнец Украіны, кіруючы «Фольксвагенам LT35D», заснуў за рулём, бо вельмі стаміўся. Аўтамабіль выехаў на сустрэчную паласу руху, затым у левы па ходзе руху кювет і перакуліўся ў канаву для сцёку вады.

30-гадовы пасажыр атрымаў цялесныя пашкоджанні. Яго шпіталізавалі. Па факце ДТЗ праводзіцца праверка.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Аўтамабіль збіў дзесяцігадовага равярыста

**ВІЛЕЙКА**

21 чэрвеня ў Вілейцы каля паловы дзявятай вечара 29-гадовы кіроўца "Аўдзі" на закругленні дарогі на вуліцы Азёрнай наехаў на дзесяцігадовага раварыста. Хлопчык нечакана выехаў на дарогу.

Школьнік рухаўся пасярэдзіне праезнай часткі насустрач аўтамабілю. Чацвёртакласніка, жыхара Вілейкі, з цялеснымі пашкоджаннямі забралі ў бальніцу.

**Паводле БелТА.**

## Нецвярозы бяспраўнік пашкодзіў машыну, знёс плот і дарожны знак

**ВІЛЕЙКА**

Здарэнні адбыліся ў Вілейцы 21 чэрвеня, увечары. Пра тое, што на машыне "ЗІЛ" па горадзе едзе меркавана нецвярозы кіроўца, у Вілейскі РАУС паведамілі грамадзяне.

Людзі, якія тэлефанавалі, казалі, што кіроўца знёс плот на вуліцы Харужай, дарожны знак у Воўкаўшчыне, пашкодзіў чужы «Фольксваген» на паркоўцы.

Работнікі міліцыі затрымалі мужчыну ў лесе каля Вілейскага вадасховішча, паведамляюць у аддзеле. Медэкспертыза паказала, што кіроўца быў нецвярозы. Да таго ж ён не меў правоў кіравання аўтамабілем. Цяпер фігуранта чакае штраф.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Пошукавая група.

Фота МНС.

# Каля сарака чалавек больш за суткі шукалі зніклага пенсіянера

## І знайшлі

**МЯДЗЕЛ**

**22 чэрвеня ў 8:51 выратавальнікам паведамілі пра тое, што трэба дапамагчы ў пошуках чалавека каля вёскі Коркі.**

Да месца пошукаў выехалі падраздзяленні МНС, у тым ліку пошукава-выратавальная група Рэспубліканскага атрада спецпрызначэння МНС, якую ўзначаліў начальнік дзяжурнай змены цэнтра аператыўнага кіравання РАСН **Яўген Высоцкі**.

Устанавілі, што 21 чэрвеня каля 12:00 пенсіянер з вёскі Коркі пайшоў з дому ў лес і знік. У пошуках удзельнічала каля сарака чалавек: выратавальнікі МНС, работнікі РАУС і мясцовыя жыхары. Шукалі нават з паветра пры дапамозе квадракоптара.

23 чэрвеня ў 11:20 пошукавая група ў полі, каля вёскі Хоневічы, знайшла знясіленага мужчыну.

Выратавальнікі на квадрацыкле даставілі пенсіянера ў штаб пошукава-выратавальных работ, адкуль перадалі медыкам для далейшай шпіталізацыі.

– Адзін з мясцовых жыхароў паказаў, што каля дзесяці гадзін раніцы на палявой дарозе, паблізу Хоневічаў, ён сустрэў пенсіянера. Гэта дазволіла істотна звузіць сектар для далейшага пошуку, – распавёў Яўген Высоцкі. – Пешымі групамі па чатыры чалавекі і кіналагічнай службай мы прачэсвалі гэты ўчастак у пошуках мужчыны, а на двух квадрацыклах абʼязджалі лясныя дарогі. Неўзабаве знайшлі сляды заходу ў поле, а пазней – і самога пенсіянера. У выніку за час выратавальнай аперацыі пошукава-выратавальнай групай РАСН МНС было пройдзена каля 50 кіламетраў лесу і палявых дарог як пешшу, так і з выкарыстаннем квадрацыклаў.

**Паводле сайта МНС.**

## У Крывічах нецвярозы кіроўца насмерць збіў жанчыну

**МЯДЗЕЛ**

Пʼяны кіроўца легкавушкі ў Крывічах насмерць збіў жанчыну, якая ехала на ровары.

Здарэнне адбылося дзён 19 чэрвеня. Паводле інфармацыі інспектараў, 40-гадовы кіроўца «Опель-Астры» не справіўся з кіраваннем і вылецеў на паласу сустрэчнага руху, дзе збіў 45-гадовую раварыстку.

У выніку ДТЗ жанчына ад атрыманых траўмаў памерла на месцы здарэння. Высветлілася, што кіроўца быў у стане алкагольнага апʼянення. Медыцынскі агляд паказаў 1,91 праміле.

Мядзельскі РАСК пачаў крымінальную справу па частцы 4 артыкула 317 КК Беларусі (Парушэнне ПДР асобай, якая кіравала транспартным сродкам у стане алкагольнага апʼянення, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека). Кіроўца затрыманы ў парадку артыкула 108 КПК.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## Ноччу ў Ілы на пажары загінуў мужчына

**ВІЛЕЙКА**

24 чэрвеня ў 01:03 выратавальнікам паведамілі пра загаранне жылога дома ў Ілы.

Падраздзяленні МНС, якія прыбылі на месца, устанавілі, што ідзе дым з-пад даха аднапавярховага двухкватэрнага драўлянага дома.

У кватэры №2 работнікі МНС на падлозе знайшлі загінулага 62-гадовага мужчыну.

У выніку пажару агонь знішчыў маёмасць, пашкодзіў сцены і перакрыцце ў жылым пакоі памерамі 2,5х4 метры, паведаміла карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік упраўлення МНС па Мінскай вобласці **Анастасія Швайбовіч**. Прычыну пажару высвятляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Больш за 140 літраў самагону знайшлі ў жыхара вёскі Вязавец

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Вязаўцы праваахоўнікі спынілі дзейнасць падпольнага міні-завода па вытворчасці самагону.

Падчас вырабу чарговай партыі спіртнога затрымалі 28-гадовага мясцовага жыхара, паведамляюць у РАУС Маладзечна. Пад самагонны завод фігурант пераабсталяваў хлеў на лецішчы. Сам ён жыве ў гэтай жа вёсцы.

Больш за 140 літраў самагону ўжо было разліта па каністрах у гаражы. Больш за 7,5 тоны брагі захоўвалася ў ёмістасцях. Адпрацаваную вадкасць мужчына зліваў ва ўкапаную ў зямлю бочку.

Мужчына растлумачыў, што гнаў спіртное для сябе. Узоры канфіскаванай вадкасці накіравалі на адпаведную экспертызу.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Віліі знайшлі цела жанчыны

**ВІЛЕЙКА**

16 чэрвеня старшы оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Віталь Паслед** паведаміў карэспандэнту, што раніцай у Віліі знайшлі труп жанчыны.

– Мясцовы жыхар быў на рыбалцы, ішоў па беразе і ўбачыў труп. Пра гэта заявіў у міліцыю, – расказаў Віталь Паслед.

Гэта зніклая раней жыхарка Вілейкі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Як захаваць бізнес на рынку дамафонаў

**Раз у Маладзечне амаль у кожным пад'ездзе стаяць дамафонныя дзверы, то чым займаецца кампанія па іх вырабе? Расказваем пра тое, як захаваць кампанію ў галіне, якая закрыла патрэбу рынку.**



Кіраўнік прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Домасэрвіс» Віктар Корсакаў каля першых дамафонных дзвярэй, якія з'явіліся ў Маладзечне. Іх усталявала кампанія «Домасэрвіс».

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Герой сённяшняга выпуску праекта – кіраўнік прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Домасэрвіс» **Віктар Корсакаў**. Ён прыехаў у Маладзечна ў 1991 годзе з Новасібірска, працаваў загадчыкам лабараторыі навукова-даследчага інстытута ЭлМаш пры «Электрамодулі». Праз некалькі год гэту працу давялося спыніць з-за рэарганізацыі завода. А мужчыну – шукаць, чым займацца, каб зарабляць.

У другой палове 1990-х па вуліцы 17 Верасня пабудавалі новы дом.

> **Жыхары з яго звярнуліся да Віктара і яго калегі па НДІ – ці не змаглі б яны зрабіць такія дзверы. Яны змаглі.**

Пасля такія ж дзверы захацелі жыхары іншага дома, і так прапанова пачала раскручвацца ў Маладзечне. Гэты першы дамафон і цяпер ахоўвае пад'езд дома №1 па вуліцы 17 Верасня.

### Калі рынак разросся

Заказчыкі пачалі з'яўляцца адзін за адным. Хаця, як і ўсе навінкі, у пачатку прапанова была не вельмі запатрабаваная. Галіна была новая. Па абсталяванне даводзілася ездзіць у Маскву, наладжваць дзелавыя кантакты. У фірму прыходзілі новыя работнікі.

> **Калі рынак дамафонных дзвярэй разросся ў Мінску да таго, што круціў рэкламу па тэлебачанні, маладзечанская арганізацыя таксама разраслася. Заказаў стала заўважна больш, людзі разумелі, што гэта і чаму трэба.**

Да 2007-га Корсакаў працаваў як індувідуальны прадпрымальнік. Пасля змяненняў у заканадаўстве пераўтварыліся ў прыватнае ўнітарнае прадпрыемства. Найманыя работнікі выконвалі заказы, а кіраўнік займаўся ўсім астатнім – бухгалтэрыяй, забеспячэннем, кадравымі пытаннямі.

Пікавы перыяд быў у 2003–2007 гадах. На рынку канкурыравала некалькі арганізацый, прытым не толькі з Маладзечна. Пад канец перыяду большасць пад'ездаў горада былі зачыненыя дамафоннымі дзвярамі. Было незразумела, чым займацца фірме, калі дамафоны з'явяцца паўсюль.

### Знайсці новы вітох

У 2004 годзе пачалі з'яўляцца першыя патрэбы па рамонце дзвярэй, падтрыманні ў рабочым стане і тэхнічным абслугоўванні. Кіраўнік зразумеў, што менавіта гэта стане асноўнай часткай працы арганізацыі ў перспектыве. Пачалі заключаць дагаворы на абслугоўванне дамафонаў, працаваць па прынцыпе абаненцкай платы. Цяпер у Маладзечне дзве фірмы, якія падтрымліваюць дамафоны горада ў рабочым стане.

> **У калектыве сем чалавек, усе яны адукаваныя і дасведчаныя прафесіяналы.**

Для мабільнасці майстроў прадпрыемству спатрэбіўся аўтамабіль, з чым і дапамог «Белаграпрамбанк».

– Я шмат год з'яўляюся кліентам «Белаграпрамбанка», – расказвае кіраўнік «Домасэрвісу». – Ніколі не падводзіў з плацяжамі. І вырашыў скарыстацца магчымасцю аформіць у банку крэдыт на аўтамабіль для майстроў.

> **Цяпер майстры могуць мабільна абслугоўваць дамафоны, дзякуючы крэдыту мы развілі бізнес.**

Арганізацыя знайшла і новую прапанову – відэадамафоны і відэаназіранне. Некаторым кліентам гэта паслуга патрэбная, і звяртаюцца да «Домасэрвісу». Важна толькі не забываць пра рэкламу.

– Дамафонныя дзверы – гэта не толькі бізнес, але і сацыяльная важная справа. Дзякуючы ім у пад'ездах чыста, менш крадзяжоў, ды і самі жыхары адчуваюць сябе ў бяспецы.

*Старонка падрыхтаваная ў межах сумеснага праекта «Будуем мару з «Белаграпрамбанкам».*

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

** Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце* Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;**
вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Rover 214, 1997 г.в., 1,4 б, 170 тысяч прабегу, цёмна-сіні колер, люк, цэнтр. замок, шклопадымальнікі. Добры стан. Цана 3600 рублёў. Т. (8-029) 5543938.*
- Нісан-Прымера Р-11, 1996 г.в., 2,0 бензін. Т. (8-033) 6382601.*
- Рэно-Кліа, 1997 г.в., 1,2 бензін, прабег 158 тысяч км. Т. (8-033) 6649242.*
- Сітраэн ZX, 1993 г.в., 1,4 бензін, на ходу. Т. Вэлком (8-044) 4522441.*
- Форд-Гэлаксі, 1,9 ТДІ, 2001 г.в., 85 кв., 115 конскіх сіл. Цана дагаворная. Маладзечна. Т. (8-029) 5717386.*
- Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*
- Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*
- Запчасткі да Аўдзі-80, 1985 г.в. Т. (8-029) 5024571.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724, (8-033) 3631161.*
- Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-033) 6612163.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на ходу для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мікраранён, плошча 38,9 кв.м, лоджыя. Т. МТС (8-029) 5600627.*
- Дача, участак 10 сотак, 4 км ад Смаргоні, за 200 м – возера. Т. (8-033) 3591382.*
- Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. МТС (8-029) 8553487.*
- Дом у в. Спягла Іжанскага с/с Вілейскага раёна. Т. (8-029) 8562654.*

### ЗДАМ

- Гараж 6х9 м у ГК №33 па вул. Міру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5753932.*

## СПАЧУВАННЕ

Былыя работнікі аддзела механізацыі і аўтаматызацыі №158 Вілейскага завода «Зеніт» смуткуюць з прычыны заўчаснай смерці колішняга кіраўніка падраздзялення **Дзмітрыя Мікалаевіча ГРЫШКЕВІЧА** і выказваюць самыя шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.



## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

- Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*
- «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ДЭМАНТАЖ**. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601 Т. (8-029) 5417847, (8-029) 3057579.*
- Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*
- Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*
- **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ**. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*
- Электрамантажныя работы. Хутка. Якасна. Нядорага. ІП Мандрык А.А. УНП 692246355 Т. (8-033)6344885.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*
- Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Вулей новы. Т. (8-029) 9950326.*
- Два вуллі дадамскія на 18 рамак у камплекце, дыстылятар, флягі малочныя 40 л, ёмістасці бляшаныя для кансервавання. Званіць пасля 20.00. Т. (8-033) 6317326.*
- Козы дойныя і козлікі. Т. (8-029) 3597375. Таццяна.
- Кураняты бройлеры ROSS 308 свойскія. Вывядзенне 16 чэрвеня. Кураняты вакцынаваныя. Магчыма дастаўка. Т. (8-029) 7672496, (8-029) 7672490.*
- Пасека, 9 вуллёў. Цана дагаворная. Вілейскі раён. Т. (8-029) 5717386.*
- Пчоласем’і з вуллямі і без вуллёў і інвентар у в. Сосенкі Вілейскага раёна. Т. (8-029) 3208690.

**Іншае**

- Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), падагравальнік для сумесі Philips Avent (40 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Тэл. (8-033) 3668181.*
- Калёсы на гумовым ходзе, збруя ў падарунак. Т. (8-029) 5737741, (8-01771) 22380.

### КУПЛЮ

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Бульбу буйную ад 10 мяшкоў. Т. (8-029) 9939955.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

- Арганізацыі ТАА «Мясныя рэзервы» патрабуецца вадзіцель катэгорыі ВС з досведам працы. Дастаўка прадукцыі на гандлёвыя аб’екты. Поўны сацыяльны пакет. З/плата па выніках сумоўя. Т. (8-044) 5444170.*
- Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

- Шукаю работу па рамонце драўляных дамоў: замена ніжніх бярвенняў, рамонт частковы альбо поўны, рамонт падмурка, даху. Кансультацыя. Выезд на аб’ект. Т. (8-029) 8745410.*

# Пачаўся сезон кляшчоў

## Як засцерагчы сябе ад небяспекі

**Сезон кляшчоў у Беларусі пачынаецца даволі рана. Першыя выпадкі присмоктвання адзначаюцца ўжо ў лютым. І актыўнасць іх працягваецца да лістапада. У Беларусі асноўныя пераносчыкі інфекцый – лясны і лугавы клешч.**



Фота pxhere.com

Сёлета на Маладзечаншчыне ўжо ёсць адзін выпадак хваробы Лайма.

Кляшчы не лётаюць і не скачуць з дрэў. Большую частку свайго жыцця яны праводзяць у траве і хмызняках у адным метры над зямлёй.

Аддаюць перавагу зацененым і вільготным месцам – узлескам змешаных лясоў, сцяжынкам, прасекам, ламаччу, сухастою.

Прысмоктваюцца кляшчы часцей непрыкметна і без болю. Самкі могуць харчавацца да 14 сутак, павялічваючыся ў памерах у дзясяткі разоў. Пагроза заражэння залежыць ад часу экспазіцыі: чым даўжэй клешч сілкуецца крывёй, тым вышэй верагоднасць заражэння чалавека. Найчасцей клешч прысмоктваецца да галавы, шыі, падпахавых ямак, пахвін, галёнак, жывата.

Кляшчы пераносяць інфекцыйныя захворванні чалавека і жывёл. У апошні час у іх можна фіксаваць узбуджальнікаў анаплазмозу, эрліхіёзу, бабезіёзу. Але самымі небяспечнымі для чалавека застаюцца клешчавы энцэфаліт і хвароба Лайма.

Штогод у Беларусі рэгіструюць больш за 150 выпадкаў клешчавага энцэфаліту і каля дзвюх з паловай тысяч выпадкаў Лайм-барэліёзу. Летась хваробай Лайма заразіліся 28 жыхароў Маладзечанскага раёна, з іх пяць дзяцей да 18 гадоў.

Сёлета ў Маладзечанскім раёне ўжо больш за сто пацярпелых ад прысмоктвання кляшчоў. Асноўная маса – дзеці да 18 гадоў. Адзін жыхар Маладзечна за перыяд 2020 года, які прайшоў, захварэў на Лайм-барэліёз.

Улічваючы, што эфектыўныя вакцыны для абароны ад большасці клешчавых інфекцый да гэтага часу не распрацаваныя (выключэнне – клешчавы энцэфаліт), іх прафілактыка ў значнай меры залежыць ад нас саміх. Прышчапляцца ад клешчавога энцэфаліту неабходна загадзя, прыкладна за паўгода да пачатку сезона актыўнасці кляшчоў.

### Як абараніць сябе ад прысмоктвання кляшчоў?

– Сцеражыцеся высокай травы, кустоў, сухастою; пры пераямшчэнні трымайцеся па цэнтры сцяжынак;

– апранайце максімальна закрытую вопратку, пажадана светлую;

– старанна аглядайце сябе пасля выхаду з лесу ці па заканчэнні работ на сваім участку;

– вопратку неабходна зняць і вытрасці;

– праверце ўсе, што прынеслі з сабой з лесу, агледзьце дамашніх гадаванцаў;

– выкарыстоўвайце рэпеленты для апрацоўкі вопраткі;

– не ўжывайце ў ежу некіпячонае казінае малако, бо такім чынам можна заразіцца на клешчавы энцэфаліт)

– для памяншэння колькасці кляшчоў на вашых прысядзібных участках прыбірайце ламачча, сухастой, высякайце непатрэбныя кусты, касіце траву.

### Што рабіць, калі прысмактаўся клешч

– Калі заўважылі кляшча на целе, неабходна дастаць яго як мага хутчэй у бліжэйшай медустанове;

– калі такой магчымасці няма, варта выдаліць кляшча самастойна з дапамогай спецыяльных прылад прамысловага вырабу, ніцяной пятлі або тонкага пінцэта;

– апрацаваць антысептыкам месца прысмоктвання;

– вымыць рукі з мылам;

– пасля самастойнага выдалення кляшча трэба звярнуцца да ўчастковага тэрапеўта (педыятра) або інфекцыяніста, якія пры неабходнасці прызначаць курс прафілактычнага лячэння антыбіётыкамі (пры звароце на працягу першых 72 гадзін пасля прысмоктвання). Прафілактычны прыём антыбіётыкаў дазваляе папярэдзіць не толькі хваробу Лайма, але і іншыя бактэрыяльныя інфекцыі.

Характэрныя клінічныя праявы клешчавых інфекцый – слабасць, павышэнне тэмпературы, галаўны боль, боль у мышцах, з'яўленне чырвонай плямы ў месцы прысмоктвання. Калі яны ў вас з'явіліся, трэба неадкладна звярнуцца да ўчастковага тэрапеўта (педыятра).

Па жаданні можна правесці лабараторнае даследаванне кляшча. Для гэтага ён змяшчаецца ў чысты флакон з кропляй вадкасці, і шчыльна зачыняецца коркам. Даследаванне праводзіцца платна і не з'яўляецца абавязковым.

Бясплатнадаследуюцца кляшчы, знятыя з пацыентаў, якія маюць супрацьпаказанні да прыёму антыбіётыкаў – даксіцыкліну, амоксіцыкліну і іншых.

Кансультацыю па лабараторным даследаванні кляшчоў і прафілактыцы клешчавых інфекцый можна атрымаць у спецыялістаў аддзела эпідэміялогіі па тэлефонах: **(8-0176) 58-05-47, 50-08-76.**

**Святлана АНДРУШКОЙЦЬ,**
**энтамолаг Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

# Адказнасць за крадзеж электраэнергіі




**Інтэрв'ю з намеснікам галоўнага інжынера філіяла «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга» Дзмітрыем Віктаравічам Цэгалкам.**

**– Якая работа па выяўленні фактаў безуліковага спажывання электраэнергіі праводзіцца спецыялістамі філіяла «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга»?**

У філіяле існуе спецыялізаваная брыгада па выяўленні і спыненні безуліковага спажывання электраэнергіі. Штодня праводзіцца рэйдавая праца з мэтай выяўлення фактаў крадзяжу электраэнергіі як па горадзе Маладзечна, так і па ўсіх раёнах абслугоўвання філіяла (Маладзечанскім, Валожынскім, Вілейскім і Мядзельскім).

**– Да чаго прыводзіць незаконнае падключэнне да электрасеткі або крадзеж электраэнергіі?**

У дачыненні да парушальнікаў складаюцца акты аб самавольным безуліковым спажыванні электрычнай энергіі. Кожны такі выяўлены выпадак цягне за сабой пакрыццё шкоды за спажытую электраэнергію ў добраахвотным, а ў выпадку адмовы – у судовым парадку. Акрамя кампенсацыі шкоды па факце крадзяжу электраэнергіі, спажыўцы прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці і ў адпаведнасці з артыкулам 20.10 Адміністрацыйнага кодэкса плацяць штраф у памеры пяціразовай сумы нанесенай шкоды.

**– Што хочаце сказаць спажыўцам электраэнергіі?**

Хацелася б звярнуць увагу грамадзян, што выкарыстанне розных метадаў безуліковага спажывання электраэнергіі (ці проста крадзяжу) прыводзіць да перагрузак, кароткага замыкання, паломак у электрасетцы, узнікае небяспека паражэння чалавека электрычным токам. Усё гэта можа прывесці да вельмі трагічных наступстваў! Калі вы валодаеце якой-небудзь інфармацыяй аб крадзяжы электраэнергіі, то можна ананімна паведаміць пра гэта на адрас: вул. Драздовіча, 27 або па тэлефоне **8 (0176) 726-2-60** ці на E-mail: **moles@minskenergo.by.**

**Філіял «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга».**

УНП 100071593



Мікалай Алейнік на судзе.



Андрэй Багамолаў пасля першага пасяджэння.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

# Алейніка і Багамолава асудзілі па справе «ланцуга салідарнасці»

**22 і 24 чэрвеня ў Маладзечне прайшлі суды над Мікалаем Алейнікам і Андрэем Багамолавым, затрыманых па выніках падзей 19 чэрвеня на «ланцугу салідарнасці». Суд прызнаў вінаватымі абодвух. Прыгаворы на момант публікацыі не ўступілі ў законную сілу.**

Суддзёй у абодвух была намеснік старшыні суда Маладзечанскага раёна па крымінальных справах **Вольга Дубовік**.

## Справа Алейніка

**Артыкул 23.34 КаАП –** «Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў».
**Артыкул 23.4 КаАП –** «Непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў».

Мікалай Алейнік прызнаны судом вінаватым па частцы 1 артыкула 23.34 і артыкуле 23.4 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Абаронцам у справе Алейніка выступіў адвакат Мінскай гарадской калегіі адвакатаў **Ігар Касцюк**. Ён хадайнічаў аб тым, каб дадаць да матэрыялаў справы дзве даведкі. Адну ў адносінах Алейніка выдалі ў ЦРБ пра тое, што 20 чэрвеня ў перыяд з 01:08 да 02:10 знаходзіўся ў ЦРБ. Устаноўлены дыягназ: вегетатыўная дысфункцыя, вострая рэакцыя на стрэс з меркаванай тахікардыяй, падскурны кровападцёк у вобласці пераносся. Другая даведка выдадзеная бальніцай №2, дзе Алейнік быў 22 чэрвеня ад 19:15 да 20:56. Ён меў сінякі на носе, кровападцёкі правага перадплечча, зрабілі рэнтген.

Абаронца хадайнічаў, каб далучыць да матэрыялаў справы фотаздымак, на якім меркавана знаходзіцца супрацоўнік міліцыі са зброяй. Пацярпелы **Баранаў** палічыў, што здымак не адносіцца да справы, таму што ў гэты момант Алейнік знаходзіўся ў службовым аўтамабілі. Суд далучыў фота да матэрыялаў справы.

Суддзя зачытала пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні. Алейніку ставіцца ў віну, што 19 чэрвеня ад 20:00 да 22:15 знаходзіўся каля дома №107 па Вялікім Гасцінцы, парушыў устаноўлены Законам аб масавых мерапрыемствах «Парадак правядзення пікетавання». Гэта выявілася ў прыняцці актыўнага ўдзелу ў сумеснай масавай прысутнасці грамадзян у загадзя ўстаноўлены час і загадзя вызначаным грамадскім месцы без адпаведнага дазволу Маладзечанскага райвыканкама. Падчас гэтага публічна выказваў незадаволенасць і свае адносіны да існуючай улады.

Паводле другога пратакола, каля 22:16 Алейнік быў затрыманы па частцы 1 артыкула 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Падчас затрымання, паводле пратакола, адмаўляўся выконваць патрабаванні супрацоўнікаў міліцыі, а менавіта камандзіра групы АМАП УУС Мінаблвыканкама лейтэнанта міліцыі Баранава ўвайсці ў службовы аўтамабіль, каб даставіць у Маладзечанскі РАУС. Хапаўся за форменнае абмундзіраванне, адмахваўся, спрабаваў збегчы, пераследаваў службовы аўтамабіль. На неаднаразовыя патрабаванні спыніць супрацьпраўныя дзеянні не рэагаваў. Гэтым аказаў непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы дзяржаўнага органа пры выкананні службовых паўнамоцтваў.

Пацярпелы па справе – супрацоўнік АМАП УУС Мінаблвыканкама Яўген Баранаў. Ён расказаў, што 19 чэрвеня ў Маладзечне праводзілі несанкцыянiраванае масавае мерапрыемства. Узброжеўс людзей супрацоўнік міліцыі ў суправаджэнні АМАП заклікаў прысутных разысціся, таму што яны парушаюць закон аб масавых мерапрыемствах, і папярэджваў пра адказнасць. Пасля ён прыняў рашэнне затрымаць найбольш актыўнага ўдзельніка. Падышоў да яго з калегам **Якавенкам**, прадставіўся і папрасіў прайсці ў службовы транспарт, пасля чаго прымянілі фізічную сілу для перамяшчэння ў транспарт.

Баранаў сказаў, што яго першымі словамі да Алейніка на момант затрымання былі: «Лейтэнант Баранаў. Добры дзень. Вы парушаеце артыкул 23.34. За гэта будзеце затрыманы. Прасьедуйце, калі ласка, з намі ў службовы транспарт».

Сведкам па справе праходзіць супрацоўнік АМАП Мінаблвыканкама Вячаслаў Якавенка. Ён патлумачыў, што разам з Баранавым загнулі рукі, некалькі метраў правялі да буса. Палову дарогі вялі ўдваіх, другую палову – адзін. Пры гэтым Алейнік хапаўся за форму, упіраўся і супраціўляўся супрацоўнікам міліцыі. Адвакат удакладняў, як за долі секунды Алейнік мог паспець усё гэта зрабіць з заламанымі рукамі, патлумачылі, што гэта было хутка.

На пытанне адваката, ці чытаў Якавенка рапарт свайго начальніка Баранава, сведка адказаў адмоўна. Адвакат удакладніў, як тады так выйшла, што рапарт Баранава цалкам супадае з пратаколам. Якавенка патлумачыў гэта тым, што апісвалі адны і тыя ж падзеі.

Алейнік вінаватым сябе не прызнаў. Расказаў, што дамовіўся сустрэцца з сябрам у цэнтры горада, правесці разам час, пагуляць. Але перакрылі рух на праспекце. У нейкі момант яго затрымалі, нават не паспеў зразумець, што адбылося. Алейнік сказаў, што ў бусе яго кінулі на падлогу і збівалі, а міліцыі не аказвалі медыцынскую дапамогу пасля неаднаразовых просьбаў, а таксама задавалі правакацыйныя пытанні асабістага характару.

Алейнік сказаў, што не быў згодны з пратаколам, але лічыў, што яму не акажуць меддапамогу, пакуль не падпіша. Пасля падпісання яму аказалі меддапамогу.

У заключным выступленні адвакат Касцюк сказаў:

– Лічу, што сёння вінаватасць Алейніка не даказаная. Пацярпелым з'яўляецца мой падабаронны, а ніяк не супрацоўнік міліцыі. Абуральны факт, што аказалі фізічнае ўздзеянне на падабароннага. Медведкі даказваюць, што фізічная сіла прымянялася. А што зрабіў мой падабаронны? Быў у сваім горадзе, у цэнтры. Мая думка, што прычына затрымання ў відэаздымкі. Магу дапусціць: некаторых раззлавала тое, што відэа з'явіцца ў інтэрнэце і паўздзейнічае на іншых. Ён стаіць у сваім горадзе і здымае нешта на тэлефон. Які прававы акт забараняе гэта рабіць?

Суд прызнаў Алейніка вінаватым па абодвух артыкулах і прызначыў пакаранне ў выглядзе адміністрацыйнага арышту на 15 сутак. Алейнік збіраецца абскарджваць прыгавор.

## Справа Багамолава

Андрэя Багамолава абвінавачвалі па артыкуле 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь – парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення масавых мерапрыемстваў.

Багамолаў расказаў, што каля 20:00 даведаўся, што перакрылі Вялікі Гасцінец. Стала цікава, пайшоў глядзець. Пра акцыю не ведаў. На праспекце ўбачыў мірнае зборышча людзей. Нічога незаконнага не ўбачыў. Стаў сведкам патасоўкі. Пад'ехаў аўтамабіль без апазнавальных знакаў. Хаатычна схапілі некалькіх грамадзян, якія мірна стаялі. Пасля пайшоў дамоў каля 11 вечара. Паклаў сына спаць. У дзве гадзіны ночы пайшоў на запраўку па цыгарэты. На выхадзе папрасілі спыніцца. Спытаў, чаму. Адказалі, што падыходжу пад арыенціроўку. Пад'ехаў АМАП і завезлі ў РАУС. Пацвердзіў, што апладзіраваў аўтамабілям, якія праязджалі міма.

Выступіў сведка, супрацоўнік Маладзечанскага РАУС **Дзмітры Суднікові**. Сказаў, што тлумачыў людзям па мегафоне, што парушаюць заканадаўства. На скрыжаванні, ля гімназіі №6, убачыў Багамолава. Не бачыў, ці выкрыкваў ён што-небудзь. Заўважыў, што кінуў у машыну неўстаноўлены прадмет.

Выступіў сведка, супрацоўнік Маладзечанскага РАУС **Сяргей Гамбіцкі**. Сказаў, што быў у аўтамабілі побач з кіроўцам, сачыў за парадкам. Сярод грамадзян, якія крычалі, апладзіравалі, быў Багамолаў.

Багамолаў патлумачыў, што стаў сведкам бессэнсоўнага брутальнага затрымання. Нічога незаконнага ў дзеяннях людзей не бачыў. У яго ўзнікла пачуццё абурэння.

У машыну нічым не кідаў. Гэта быў эмацыянальны ўзмах рукой.

– Я творчы чалавек, займаюся канцэртнай дзейнасцю. Калі з-за пандэміі адмяніліся масавыя мерапрыемствы, крыніцы даходаў не стала. Да гэтага жыў з жонкай і сынам у Мінску. Цяпер жонка працуе ў Мінску, – дадаў Багамолаў.

Багамолаў віну прызнаў часткова.

Суд прызнаў Багамолава вінаватым і прызначыў пакаранне ў выглядзе адміністрацыйнага арышту на сем сутак. Абскарджваць прыгавор не будзе.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# Тры пенсіянеры з Чысці падаліся ў склад выбарчай камісіі

## Нікога з іх не зарэгістравалі

МАЛАДЗЕЧНА

**На мінулым тыдні жыхары Чысці, пенсіянеры, падалі дакументы ў Маладзечанскі райвыканкам, каб зарэгістравацца ў члены выбарчай камісіі на выбарах прэзідэнта. 24 чэрвеня стала вядома, што нікога з іх не зарэгістравалі.**




Фота Алеся РАТКЕВІЧА.

На адным з пікетаў па зборы подпісаў у Чысці.

### Яўген Тумель: Сярод альтэрнатыўных кандыдатаў ёсць дастойныя

Чысцінец Яўген Тумель да пенсіі працаваў у будаўніцтве, быў майстрам на вытворчасці пластыкавых вокнаў, ахоўнікам на забудове. Цяпер, кажа, што і хацеў бы папрацаваць, але ў Чысці нідзе не ўладкуешся.

– Сабраў 12 подпісаў, – расказвае спадар Яўген. – Людзі падпісваліся без праблем. Палітыка мяне заўсёды цікавіла, а цяпер тым больш. Бачу, што ўжо столькі год нічога не мяняецца. Гляджу, як па тэлебачанні на сходах у Аляксандра Лукашэнкі ўсё толькі галовамі ківаюць. Ніхто не можа запярэчыць ці нешта прапанаваць. Цяпер гляджу не толькі тэлебачанне, а і інтэрнэт. Магу ўбачыць альтэрнатыўных кандыдатаў. Сярод іх ёсць вельмі разумныя, сучасныя, дастойныя. Я жыў у Польшчы, Варшаве, Арменіі. У сярэдзіне 1990-х вярнуўся. Вельмі падтрымліваў тады дзеючую ўладу ў Беларусі. Нават спрачаўся з-за гэтага з сябрамі і калегамі. А цяпер упэўнены: нам патрэбныя перамены.

### Ірына Дзеравянкіна: хацела прасачыць, ці справядлівыя выбары

Ірына Дзеравянкіна да пенсіі працавала санітаркай. Спачатку ў Чысці, потым у Мінску. Кажа, палітыкай да нядаўняга часу не цікавілася зусім:

– Толькі апошнім часам стала назіраць за палітычнымі падзеямі. Бачу жорсткія затрыманні, калі людзей хапаюць, б'юць. У мяне ёсць і дзеці, і ўнукі. І мне падумаць страшна, што з імі могуць так абысціся.

Ірына кажа, што заўсёды было актыўнай, ініцыятыўнай. Хацела быць патрэбнай і ў выбарчай камісіі, сачыць, каб усё адбывалася справядліва, без парушэнняў.

### Алесь Раткевіч: раней подпісы было не сабраць, а цяпер людзі самі ішлі падпісацца

Чысцінец **Алесь Раткевіч** мае досвед і дэпутацтва, і ўдзелу ў выбарчых камісіях, і збору подпісаў за кандыдатаў.

– Хадзіў на выбары прэзідэнта толькі ў 1994 годзе. Пасля расчараваўся, не бачыў дастойных. Таму не хадзіў. Цяпер жа, на маю думку, такія кандыдатуры з'явіліся. Абавязкова пайду на выбары. І непасрэдна ў дзень галасавання.

Спадар Алесь заўважае, што ў ранейшыя гады збор подпісаў быў вельмі маруднай справай:

– Я збіраў подпісы за аднаго кандыдата, стаяў на пікетах па некалькі гадзін. І добра было, калі за сем гадзін тры-чатыры подпісы збярэш. Цяпер жа людзі самі тысячамі выходзілі.

Алесь Раткевіч хацеў бы трапіць у камісію, каб на свае вочы ўбачыць, што ўсё адбываецца без парушэнняў. Калі за дзеючага прэзідэнта, значыць – за дзеючага, калі за альтэрнатыўнага – то за яго. Але каб усё было справядліва.

24 чэрвеня падчас анлайн-трансляцыі з Маладзечанскага райвыканкама абвясцілі, каго ўключаць у склад выбарчай камісіі. Ні адзін з нашых суразмоўцаў туды не трапіў, бо ў пададзеных дакументах была недакладнасць.

– Канешне, гэта наша ўпушчэнне, што не былі дастаткова ўважлівыя. Аднак я не раз працаваў у падобных камісіях. І ведаю, што раней тэлефанавалі і паведамлялі пра недакладнасці, каб была магчымасць іх паправіць. Тым больш, мы дакументы падалі за тыдзень да абвяшчэння вынікаў. Паспрабую пайсці назіральнікам, – падсумаваў Алесь Раткевіч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

---

## Міліцыя затрымала людзей, што стаялі ў чарзе да крамы Symbal.by

23 чэрвеня, увечары, у Мінску людзі прыйшлі да крамы Symbal.by, каб купіць патрыятычную прадукцыю праз хуткае закрыццё крамы. Тут іх затрымала міліцыя.

На вуліцы ўтварылася чарга, але неўзабаве прыехалі тры машыны міліцыі, у тым ліку аўтазак з АМАПам, куды без разбору пачалі кідаць людзей.

«Наша Ніва» звярнулася ў МУС з пытаннем, за што затрымліваюць людзей у чарзе.

«Людзі дастаўленыя ў міліцыю для разбору ў мэтах спынення супрацьпраўнай дзейнасці. Яны заблакіравалі машыну, зламалі люстэрка… Машына цывільная спрабавала выехаць», – сказала афіцыйны прадстаўнік мінскай міліцыі **Наталля Ганусевіч**.

Ганусевіч не адказала на пытанне, як АМАП так хутка зразумеў, каго менавіта трэба затрымліваць за нібыта зламанае шкло. Дзеянні АМАПа выглядалі адвольнымі, яны хапалі ўсіх запар. Відавочцы кажуць, што затрыманых дзясяткі чалавек.

Разбор жа па такіх дробных скаргах у іншых абставінах ніколі не суправаджаецца масавым затрыманнем з дапамогай спецыяльных падраздзяленняў.

Мяркуючы па фота і па прозвішчы, сярод затрыманых – **Аляксандр Кузняцоў**, студэнт-наватар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, які разам са сваімі сябрамі за ўласныя грошы на 3D-прынтарах запусціў друк дэталяў сродкаў індывідуальнай абароны і апаратаў штучнай вентыляцыі лёгкіх для медыкаў, якім неабходная была дапамога ў барацьбе з пандэміяй каронавіруса.

**Паводле «Нашай Нівы».**

## Лукашэнка: Астравецкая АЭС каштавала нам шэсць мільярдаў долараў

АСТРАВЕЦ

Пра гэта кіраўнік дзяржавы расказаў падчас сустрэчы з жыхарамі Брэста 22 чэрвеня.

Тэму кошту АЭС Аляксандр Лукашэнка закрануў пасля абмеркавання лёсу акумулятарнага завод ля Брэста. Са слоў кіраўніка Беларусі, перш насамрэч планавалі будаваць БелАЭС коштам 10 мільярдаў долараў. Аднак падчас будаўніцтва ўдалося значна зменшыць выніковую суму выдаткаў.

«Яна не дзесяць мільярдаў будзе каштаваць, а каля шасці, – сказаў Лукашэнка. – І гэта наш набытак, што мы адцяснулі чатыры мільярды на будаўніцтве. Планавалася дзесяць. І не ў захапленні ад гэтага рускія».

Якім менавіта чынам удалося скараціць выдаткі на будаўніцтве атамнай электрастанцыі, кіраўнік Беларусі не патлумачыў.

**Паводле Радыё Свабода.**

# ЦТ і ўступную кампанію перанеслі з-за каронавіруснай пандэміі

**Цэнтралізаванае тэсціраванне пачнецца на два тыдні пазней, чым планавалі ў Міністэрстве адукацыі. А ўступную кампанію – прыём дакументаў на бюджэтныя і платныя месцы – пасунулі на тыдзень, час уступных экзаменаў – практычна на 14 дзён.**




Фота Настассі УТКІНАЙ.

«РГ» прыводзіць усе даты тэсціравання і ўступнай кампаніі.

### Як праўдуць ЦТ ва ўмовах пандэміі?

Графік правядзення ЦТ у 2020 годзе зацвердзілі яшчэ ў сярэдзіне лютага. Згодна з пастановай Міністэрства адукацыі, цэнтралізаванае тэсціраванне ў Беларусі павінна было праходзіць ад 13 чэрвеня да 4 ліпеня.

14 мая пасля нарады міністра адукацыі **Ігара Карпенкі** ў **Аляксандра Лукашэнкі** стала вядома, што звыклыя тэрміны пачатку цэнтралізаванага тэсціравання перанясуць. Карпенка адзначыў, што тэсціраванне па найбольш масавых прадметах падзеляць на два дні. Напрыклад, рускую мову і матэматыку будуць праводзіць у два дні. На некалькі дзён вучэбны прадмет разбіваюць упершыню.

**Міністэрства адукацыі адзначыла, што калі абітурыент адчувае сябе кепска, і гэта дакументальна пацверджана, то ён можа здаць цэнтралізаванае тэсціраванне ў рэзервовыя дні.**

У пунктах правядзення ЦТ будуць знаходзіцца сродкі для дэзынфекцыі рук. У аўдыторыях рассадзяць так, каб захаваць сацыяльную дыстанцыю паміж людзьмі. Мінадукацыі паведаміла, што на ЦТ дазволяць выкарыстоўваць маскі. Аднак на этапе ідэнтыфікацыі асобы абітурыента маску спатрэбіцца зняць. Таксама Міністэрства адукацыі парэкамендавала абітурыентам прытрымлівацца дзелавога стылю ў адзенні.

На тэсціраванне дазволена браць дзве гелевыя ручкі, на хімію і фізіку – калькулятар.

**Неабходна пры сабе мець дакумент, які сведчыць асобу.**

### Большасць абітурыентаў рэгіёна здаюць ЦТ у Маладзечне

На цэнтралізаванае тэсціраванне ў Маладзечна традыцыйна прыязджаюць абітурыенты з Астравеччыны, Ашмяншчыны, Смаргоншчыны, Валожыншчыны, Мядзельшчыны і Вілейшчыны.

ЦТ у 2020 годзе праводзяць у чатырох месцах: у політэхнічным каледжы, гімназіі №3, гімназіі №10 і сярэдняй школе №14. Колькасць задзейнічаных пляцовак у параўнанні з мінулым годам павялічылася ў два разы. Гэта адбылося з-за эпідэміялагічнай абстаноўкі ў Беларусі.

### Графік цэнтралізаванага тэсціравання

Беларуская мова – 25 чэрвеня.

Руская мова – 26 і 27 чэрвеня.

Грамадазнаўства – 29 чэрвеня.

Матэматыка – 1 і 2 ліпеня.

Біялогія – 4 ліпеня.

Замежная мова – 6 ліпеня.

Хімія – 8 ліпеня.

Фізіка – 10 ліпеня.

Гісторыя Беларусі – 12 ліпеня.

Геаграфія – 14 ліпеня.

Сусветная гісторыя – 16 ліпеня.

### Графік правядзення цэнтралізаванага тэсціравання ў рэзервовыя дні

Беларуская мова – 19 ліпеня (нядзеля), 21 ліпеня (аўторак).

Грамадазнаўства – 19 ліпеня (нядзеля), 23 ліпеня (чацвер).

Матэматыка – 19 ліпеня (нядзеля), 23 ліпеня (чацвер).

Біялогія – 19 ліпеня (нядзеля), 23 ліпеня (чацвер).

Замежная мова – 19 ліпеня (нядзеля), 23 ліпеня (чацвер).

Хімія – 19 ліпеня (нядзеля), 23 ліпеня (чацвер).

Фізіка – 19 ліпеня (нядзеля), 23 ліпеня (чацвер).

Гісторыя Беларусі – 19 ліпеня (нядзеля), 23 ліпеня (чацвер).

Геаграфія – 19 ліпеня (нядзеля), 23 ліпеня (чацвер).

Сусветная гісторыя – 19 ліпеня (нядзеля), 23 ліпеня (чацвер).

Атрымаць сертыфікаты абітурыенты, якія здавалі ЦТ у асноўныя дні, змогуць 25 ліпеня. Тыя, хто здаваў тэсціраванне ў рэзервовыя дні, атрымаюць іх 29 ліпеня.

### Пасля ЦТ пачнецца ўступная кампанія

Тэрміны прыёму дакументаў на бюджэтныя і платныя месцы, а таксама ўступных экзаменаў перанеслі, як і цэнтралізаванае тэсціраванне. Міністэрства адукацыі адпаведную пастанову апублікавала на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Згодна з ёй, тэрміны прыёму дакументаў ссунулі на тыдзень, а час уступных экзаменаў – амаль на два.

### Тэрміны прыёму дакументаў

Ад 25 да 31 ліпеня – ад асоб, якія паступаюць ва ўстановы вышэйшай адукацыі для атрымання вышэйшай адукацыі за кошт бюджэтных сродкаў і на платнай аснове;

ад 25 ліпеня да 10 жніўня – у Акадэміі МУС, Магілёўскі інстытут МУС, універсітэт грамадзянскай абароны МНС;

ад 25 ліпеня да 13 жніўня – у Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў;

ад 25 ліпеня да 15 жніўня – у іншыя ўстановы вышэйшай адукацыі;

ад 25 да 27 ліпеня – ад выпускнікоў профільных класаў педагагічнай накіраванасці, якія паступаюць на педагагічныя спецыяльнасці;

ад 15 лістапада да 5 снежня – для тых, хто паступае на завочную форму атрымання адукацыі ва ўстановы вышэйшай адукацыі сельскагаспадарчага профілю за кошт бюджэтных сродкаў і на платнай аснове.

### Даты ўступных экзаменаў

Ад 1 да 3 жніўня – ва ўстановы адукацыі «Універсітэт грамадзянскай абароны Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь», «Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь», на ваенныя факультэты;

ад 1 да 7 жніўня – у іншыя ўстановы вышэйшай адукацыі.

У ВНУ сельскагаспадарчага профілю на завочнай форме атрымання адукацыі ўступныя экзамены пройдуць ад 6 да 15 снежня.

### Тэрміны залічэння абітурыентаў на бюджэтныя месцы

На спецыяльнасці, па якіх не здаюцца ўступныя экзамены:

да 4 жніўня – ва ўстановах адукацыі «Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь», «Інстытут памежнай службы Рэспублікі Беларусь», «Універсітэт грамадзянскай абароны Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь», «Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў», на ваенных факультэтах ва ўстановах вышэйшай адукацыі;

да 6 жніўня – у іншых дзяржаўных установах вышэйшай адукацыі (акрамя завочнай формы атрымання адукацыі ва ўстановах вышэйшай адукацыі сельскагаспадарчага профілю);

да 20 снежня – на завочнай форме атрымання адукацыі ва ўстановах вышэйшай адукацыі сельскагаспадарчага профілю.

На спецыяльнасці, па якіх здаюцца ўступныя экзамены:

ад 10 да 11 жніўня – у дзяржаўных установах вышэйшай адукацыі;

да 5 жніўня – на ваенных факультэтах ва ўстановах вышэйшай адукацыі;

да 20 снежня – на завочнай форме атрымання адукацыі ва ўстановах вышэйшай адукацыі сельскагаспадарчага профілю.

Абітурыенты, якія паступаюць для атрымання вышэйшай адукацыі на платнай аснове, будуць залічвацца да 17 жніўня. А на завочнай форме атрымання адукацыі ва ўстановах вышэйшай адукацыі сельскагаспадарчага профілю – да 20 снежня.

Пастанова Міністэрства адукацыі рэгламентуе правілы дадатковага набору і тэрміны ўступнай кампаніі для замежных грамадзян, асоб без грамадзянства, грамадзян Украіны і асоб без грамадзянства, якія пражывалі (як правіла, не менш за год) на тэрыторыі Данецкай і Луганскай абласцей Украіны і прыбылі ў Беларусь для атрымання дазволаў на часовае або пастаяннае месца жыхарства.



Падрыхтавала
Настасся
УТКІНА
anastasiautkina94
@gmail.com
(8-0176)
53-78-06

# Актывізм – гэта змяняць свет вакол да лепшага

**Сваім досведам у галіне актывізму падзялілася маладзечанка Марыя Калеснікава, прадстаўнік каардынацыйнага савета моладзевай арганізацыі NSNL.**

Фота забяспечанае Марыяй КАЛЕСНІКАВАЙ.

Марыі Калеснікавай асабліва блізкая ў актывізме тэма інклюзіі.

Марыя вучылася ў маладзечанскай СШ №8, школьніцай была валанцёрам некамерцыйнай арганізацыі YMCA. Была мультыплікатарам праграмы «Роўны навучае роўнага» па тэмах ВІЧ і СНІД. Пасля закончыла БДЭУ па спецыяльнасці маркетолаг-эканаміст.

### Як прыйшла ў актывізм

У дзяцінстве мама **Наталля** адпраўляла Машу ў розныя гурткі, каб дзяўчынка мела магчымасць знайсці сябе. Пры гэтым практычна не абмяжоўвала ў ідэях, і цяпер Маша разумее, наколькі гэта важна.

Першы досвед актывізму ў Марыі адбыўся ў 14 год у некамерцыйнай арганізацыі YMCA. Там дзяўчына праводзіла семінары для аднагодак на тэму прафілактыкі ВІЧ і СНІД. Атрымала ўзнагароду – паездку ў Швецыю.

– Гэта было вельмі каштоўна, што за першую спробу актывізму атрымала такую магчымасць, – прыгадвае Марыя. – Пазнаёмілася з актывістамі з розных краін, пажыла крыху ў іншай краіне. Менавіта YMCA паўплывала на станаўленне асобы і фарміраванне каштоўнасцей.

Надзвычай важнай была падтрымка маці.

– Я памятаю, як ёй было страшна адпраўляць мяне ў іншую краіну з чужымі людзьмі, але я гарэла актывізмам, і яна адпусціла, – прыгадвае маладзечанка. – У самым пачатку менавіта мама паехала са мной у дзіцячы дом і дапамагла зразумець, што важна мне. Дзякуючы ёй у мяне была магчымасць зразумець, што інклюзіўны кірунак мне блізкі.

> Інклюзія – гэта працэс рэальнага ўключэння людзей з розных сацыяльных груп у актыўнае грамадскае жыццё, які аднолькава неабходны для ўсіх членаў грамадства.

> **– Людзі ў рэгіёнах больш адкрытыя, гатовыя дапамагаць. Так ці інакш, усе адзін аднаго ведаюць. Дзякуючы гэтаму лягчэй прасоўваць ідэі і развіваць новыя кірункі.**
>
> **– Марыя Калеснікава.**

### Развівае актывізм у Маладзечне

Дзяўчына далучылася да праекта па пераўтварэнні вуліцы стрыт-фуда. Тут пазнаёмілася з іншымі актывістамі, якія развіваюць родны горад.

– Мяркую, развівацца актывізму ў рэгіёнах нашмат прасцей, чым у буйным горадзе, – лічыць маладзечанка. – Людзі ў рэгіёнах больш адкрытыя, гатовыя дапамагаць. Так ці інакш, усе адзін аднаго ведаюць. Дзякуючы гэтаму лягчэй прасоўваць ідэі і развіваць новыя кірункі.

Марыя адзначыла, што ні яна, ні яе калегі не мелі асаблівай складанасці, калі рэалізоўвалі актывісцкія ініцыятывы або праекты ў Маладзечне.

Ва ўмовах пандэміі актыўнасць крыху змянілася. Дзейнасць перайшла ў анлайн-фармат. Дзякуючы гэтаму сцерліся межы паміж гарадамі і краінамі. З'явілася магчымасць наведваць шмат мерапрыемстваў, не выходзячы з дому. Таму і працы стала больш, і па тэмпе яна больш інтэнсіўная.

### Знайсці ў актывізме сябе

– Для мяне актывізм – гэта стыль жыцця, – дзеліцца Марыя. – Магчымасць змяняць свет вакол сябе да лепшага, расці і развівацца ў розных сферах.

> **Цяпер я прасоўваю тэму інклюзіі. Разглядаю яе ў шырокім сэнсе. Гаворка ідзе не толькі пра людзей з інваліднасцю, а пра адсутнасць дыскрымінацыі агулам на розных узроўнях.**

Дзяўчына дзеліцца парадай, што рабіць навічкам у актывізме:

– Спярша трэба разабрацца, што канкрэтна ты хочаш змяніць, – тлумачыць маладзечанка. – Пасля шукай падтрымку ў сяброў, аднадумцаў, некамерцыйных арганізацыях, якія працуюць у такім кірунку. Напрыклад, мы ў NSNL працуем па кірунках гендара, правоў чалавека, экалогіі, урбаністыкі. І заўсёды рады новым знаёмствам!

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**




Артыкул створаны ў межах праекта RegiON (уключаючы рэгіён), які ў Маладзечне рэалізуецца моладзевай арганізацыяй NSNL, лакальнай камандай «Жывой Бібліятэкі» і Цэнтрам развіцця эфектыўнай камунікацыі «Жывая Бібліятэка» ў партнёрстве з Міжнароднай некамерцыйнай арганізацыяй Pact пры падтрымцы Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці (USAID).

# Першая «Смаргонь», кепская абарона «Ашмянаў». Прайшлі чарговыя туры ў першай і другой лігах

**«РГ» распавядае пра апошнія вынікі футбольных камандаў рэгіёна ў чэмпіянатах першай і другой ліг.**




Заўзятары смаргонскай каманды падчас гульні з «Хімікам».

Фота Сяргея ПЛЮТО.

### «Смаргонь» усё яшчэ на першай пазіцыі

У «Смаргоні» чарговая перамога ў сезоне першай лігі. 20 чэрвеня смаргонскія футбалісты на дамашнім полі сустрэліся з «Хімікам» са Светлагорска. У гульні галы забівалі толькі смаргонскія гульцы. **Яўген Савасцьянаў** і **Іван Маўчанаў** адзначыліся галамі напрыканцы матча.

Галоўны трэнер **Вячаслаў Герашчанка** пасля матча даў каментарый, у якім сказаў, што каманда перамагла абсалютна заслужана:

– Задаволены, як каманда згуляла ў матчы. У першую чаргу, у другім тайме.

> Капітан «Смаргоні» Іван Маўчанаў увайшоў у сімвалічную зборную 9 тура першай лігі.

Гульня завяршылася **2:0**. Смаргонская каманда займае першы радок у турнірнай табліцы.

### Кучынскі выратаваў «Ашмяны»

21 чэрвеня «Ашмяны-БДУФК» згулялі ўнічыю з «Гранітам» з Мікашэвічаў. **Яўген Бобрук** з «Граніта» забіў першы гол, а прадстаўнік ашмянскай каманды **Аляксандр Кучынскі** зраўняў лік. У матчы футбалісты атрымалі восем жоўтых і дзве чырвоныя карткі. Кучынскага выдалілі з поля за дзесяць хвілін да канца гульні.

Галоўны трэнер так распавёў пра гульню:

– Што тут каментаваць? Устаноўку на матч не выканалі. Так як мы згулялі ў абароне, так мы і будзем прапускаць такія мячы. З такой гульнёй у абароне нічога добрага не будзе. Кожны матч ідзе выдаленне – так нельга.

Сустрэча завяршылася **1:1**. Ашмяны займаюць дзявятае месца ў турнірнай табліцы.

### «Астравец» прапусціў тур, а ў «Маладзечна» нічыя

«Астравец» прапусціў апошні тур, таму што ў групе няцотная колькасць камандаў. Астраўчане займаюць пятае месца ў турнірнай табліцы.

А маладзечанцы згулялі выязны матч у Маларыцe супраць «Дынама-Брэст-1960». Гульня скончылася ўнічыю. За дынамаўцаў забівалі **Кірыл Палхоўскі** і **Павел Пампуха**. Маладзечанцы адказалі галамі ад **Глеба Гулецкага** і **Сяргея Дразда**.

Матч завяршыўся **2:2**.

«Маладзечна» займае шостае месца ў першай лізе.

Нагадаем, што маладзечанскай камандзе трэба перамагаць ва ўсіх наступных матчах, каб заняць месца ў тройцы лідараў у сваёй групе. Толькі тры каманды з групы выйдуць у наступны этап. Аднак перад адным з важных адрэзкаў маладзечанцы згуляюць без **Ігара Талькоўскага**, **Сямёна Хаткевіча**, **Арцёма Грыба**, **Мікіты Мятліцкага**, **Арцёма Базылюка**, **Ягора Імеракова**.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Сезон у НБА пачнецца ў канцы ліпеня

Журналіст буйнога спартыўнага СМІ ў ЗША **Эдрыян Воджнароўскі** паведаміў, што сезон НБА пачнецца праз месяц.

НБА і прафсаюз гульцоў зацвердзілі дэталі перагледжанай калектыўнай дамовы з мэтай правесці рэстарт сезона-2019/20. НБА плануе аднавіць рэгулярны чэмпіянат 30 ліпеня ў Арланда з удзелам 22 клубаў.

Дакладна невядома, ці пагодзяцца гуляць усе баскетбалісты. Як піша Воджнароўскі, некаторыя гульцы асцерагаюцца выходзіць на пляцоўку з-за COVID-19. А некаторыя хочуць прысвяціць лета барацьбе з расізмам.

Нагадаем, што сезон спыніўся да пачатку плэй-оф праз каронавірусную пандэмію.

**Паводле espn.com.**

## «Дынама-Маладзечна» згуляе ў Кубку Салея

Спартыўны дырэктар федэрацыі хакея **Уладзімір Беражкоў** распавёў, у якім фармаце пройдзе турнір.

– Кубак Руслана Салея пройдзе, хутчэй за ўсё, у тым жа фармаце, што і ў мінулым годзе. Акрамя таго, магчыма, да нас далучыцца клуб з Казахстана, які выказаў жаданне прыняць удзел у турніры. Праект правядзення Кубка Салея мы разаслалі клубам. Папярэдне плануем пачаць 6 жніўня, – сказаў Беражкоў.

Калі ў турнір заявіцца замежная каманда, то на першым этапе згуляюць 16 удзельнікаў.

«Фінал чатырох» Кубка Салея дакладна адбудзецца 29-30 жніўня, у ім згуляюць пераможцы груп папярэдняга этапу, а таксама чэмпіён краіны «Юнацтва» і мінскае «Дынама». Гаспадаром фінальнага раўнда стане пераможца адной з груп.

Маладзечанскае «Дынама» пачне папярэдні этап у групе В разам з «Нёманам», «Магілёвам», «Лакаматывам», «Пінскімі ястрабамі», «Лідай», «Бабруйскам» і Беларуссю U18.

**Паводле hockey.by.**

## Мужчынская нацыянальная зборная па баскетболе трэніруецца ў Мінску

22 чэрвеня ў мужчынскай зборнай Беларусі па баскетболе пачаўся трэніровачны збор.

Галоўным трэнерам з мінулага года працуе **Расціслаў Вяргун**, асісціруе **Андрэй Крыванос**.

Спіс баскетбалістаў, якіх выклікалі на збор: **Андрэй Стаброўскі, Уладзіслаў Блізнюк, Андрэй Рагазенка, Аляксей Трасцінецкі, Віталь Лютыч, Аляксандр Пустагвар, Максім Салаш, Яўген Белянкоў, Максім Лютыч, Раман Рубінштэйн, Бенджамін-Павел Дуду, Аляксандр Семянюк, Арцём Малькоў, Дзяніс Вікенцьеў, Уладзіслаў Мікульскі, Вадзім Стубеда, Іван Аладка, Кірыл Сітнік, Ілля Шарыпаў**.

**Паводле belarusbasket.by.**

## Юнацкая зборная па валейболе трэніруецца ў Мядзеле

Зборная юнакоў да 20 гадоў прыступіла да першага збору ў рамках падрыхтоўкі да фінальнага этапу чэмпіянату Еўропы. Збор праходзіць у Мядзеле ад 15 да 28 чэрвеня.

Пакуль дакладныя даты турніру ЕКВ не паведаміла. Плануецца, што гэта інфармацыя стане вядомая ў бліжэйшыя дні.

Беларускія юнакі трэніруюцца пад кіраўніцтвам галоўнага трэнера **Сяргея Троцкага**.

Склад гульцоў юнацкай зборнай на зборы: **Ілля Марозаў, Аляксандр Пятрэвіч, Дзмітры Дылеўскі, Уладзіслаў Давыскіба, Арцемій Матыль, Глеб Азаранка, Павел Галота, Уладзімір Галота, Уладзіслаў Бабкевіч, Максім Багатка, Мікіта Канавалаў, Яўген Грэцкі, Ягор Кавалёў, Мікіта Заморскі, Антон Сушынскі, Максім Фралянкоў**.

Таксама ў Мядзеле збор праводзе і нацыянальная зборная – ад 1 да 16 ліпеня.

**Паводле bvf.by.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Прамая, напрамак якой супадае з напрамкам адвесу.
4. Вялікая цыліндрычная пасудзіна з двума плоскімі днішчамі, зробленая з выпуклых драўляных клёпак, сціснутых абручамі, або з бляхі.
7. Паўночнаамерыканскі дзікі бык атрада парнакапытных з доўгай поўсцю.
8. Публічнае паведамленне на пэўную тэму.
10. Адплата за прычыненае зло.
12. Лекавыя травы, а таксама настой на гэтых травах, які выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне.
13. Вялікі масіў лесу.
15. Прадмет сталовага прыбора для зачэрпвання рэдкай або рассыпістай ежы.
17. Будынак для пасажыраў на чыгуначнай станцыі, прыстані.
19. Прыемная пахучая спецыя для салодкага.
21. Узор у вокнах, дзвярах са шкла рознага колеру.
22. Збудаванне ў выглядзе раду ступенек для пад'ёму і спуску.
23. Спажыванне ежы вечарам.
24. Прыстасаванне ў аўтаматычнай або тэлемеханічнай канструкцыі, якое прымае, пераўтварае і перадае інфармацыю кантрольна-вымяральнаму ці каманднаму прыбору.
26. Вузкія штаны з баваўнянай тканіны, прашытыя каляровымі ніткамі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Распрацаваны план стварэння пабудовы.
2. Прамая лінія на паперы, дошцы, якая дапамагае пісаць роўнымі радкамі, рабіць патрэбны нахіл літар.
5. Бяздонная прорва, невымерная глыбіня.
6. Наказ не рабіць чаго-небудзь.
7. Укладзеная каменем праезджая частка вуліцы, дарогі, плошчы.
9. Упрыгожанне, якое прымацоўваецца да мочкі вуха.
11. Матэматычны знак у выглядзе крыжыка.
14. Спецыяльна адведзенае месца з адпаведнымі прыстасаваннямі і будынкамі для гандлю.
15. Салодкі безалкагольны напітак з сокам лімона ці іншых фруктаў.
16. Прадмет мэблі для сну.
18. Аднаклетачны мікраскапічны арганізм, які размнажаецца дзяленнем.
20. Кніга, у якой сабраны літаратурныя творы, матэрыялы, дакументы.
25. Ніткападобная эластычная пасма расліннага, мінеральнага або штучнага паходжання, з якой вырабляюць пражу, вату.

## Адказы на крыжаванку з №25

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Абавязак. 3. Гадзіна. 5. Работа. 6. Жакет. 8. Галадоўка. 11. Тонус. 12. Талон. 13. Талент. 17. Крэсла. 20. Німфа. 21. Карп. 24. Тайнапіс. 25. Жывот.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Жвавы. 4. Курорт. 7. Акіян. 8. Гладыш. 9. Алей. 10. Артыст. 14. Галубцы.15. Навекі. 16. Гліна. 17. Ківок. 18. Курсіў. 19. Нумізмат. 22. Абзац. 23. Надой. 26. Жывапіс.

## ● ГАРАСКОП НА 26 ЧЭРВЕНЯ – 2 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** У гэты час вам трэба зрабіць самае прыемнае ўражанне на навакольных. І вы зможаце дабіцца поспеху. Галоўнае, дзейнічаць у правільным кірунку і быць у курсе ўсіх бягучых спраў.



**ЦЯЛЕЦ.** Зацыкліваццa на нечым адным не варта, а лепш рабіць тое, што добра атрымліваецца. Вашы ўзаемаадносіны з навакольнымі могуць азмрочыцца з-за інтрыг і нагавору. Пры гэтым вы можаце атрымаць асаблівыя весткі, якія невымоўна пацешаць вас.



**БЛІЗНЯТЫ.** Неадназначны перыяд, на працягу якога не атрымаецца ў поўнай меры раскрыць свой патэнцыял і праявіць сябе. У гэты час будзе не проста выбудоўваць узаемаадносіны з навакольнымі.



**РАК.** Не заўсёды атрымаецца знаходзіць патрэбныя словы, данесці свае думкі да калег ці сяброў. Многае будзе ўспрымацца скептычна і несур'ёзна. Пры гэтым вы будзеце гатовыя дзейнічаць рашуча і хутка.



**ЛЕЎ.** Не ўсё будзе атрымлівацца, не хопіць часу, каб дасканала абдумаць свае крокі і ўчынкі. На працягу перыяду ўдача будзе спадарожнічаць вам усюды. Пачатыя раней справы ўдасца шчасліва завяршыць.



**ДЗЕВА.** Вы будзеце адчуваць сябе ўпэўнена. Здолееце пераадолець любыя перашкоды і без працы дасягнуць вызначаных мэт. У асабістых узаемаадносінах таксама не выключаны станоўчыя перамены.



**ШАЛІ.** У гэты час можна складаць смелыя планы, а ў фінансавых пытаннях не пабаяцца і рызыкнуць. У гэты перыяд у важнай справе разлічвайце на дапамогу сяброў або заступніцтва ўплывовых асоб.



**СКАРПІЁН.** Рамантычныя кантакты прынясуць радасць, сталыя адносіны атрымаюць сваё развіццё. У гэты час у вас не будзе ніякіх праблем. Абы толькі ўсё ўдалося, і вы будзеце адчуваць сябе цудоўна.



**СТРАЛЕЦ.** У вас з'явяцца магчымасці дазволіць прыемнасць і ў асабістым жыцці. Не прапусціце свой шанец палепшыць бягучае становішча спраў.



**КАЗЯРОГ.** У дзелавой сферы можна не чакаць якіх-небудзь значных змен. На працы не адбудзецца нічога істотнага, а некаторыя справы так і застануцца незавершанымі.



**ВАДАЛЕЙ.** Не варта спяшацца ў справах. Гэта будзе не зусім добры перыяд для дзелавых кантактаў. Лепш падводзіць прамежкавыя вынікі, заняцца руціннай працай.



**РЫБЫ.** У асабістым жыцці ў вас з'явіцца шанец умацаваць свае адносіны з каханым чалавекам, наладзіць зносіны з блізкімі людзьмі.

**Эмілія ХВОЯ.**



## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 5 | 3 | | | | 2 | 9 | |
| 8 | | 2 | | 7 | | | | 4 |
| 4 | 7 | 9 | 2 | | 1 | | | |
| 7 | | | 6 | 1 | | | | |
| | 8 | | | | | 4 | 1 | |
| 3 | | | | | | | | 6 |
| | | | | 2 | | 5 | | |
| 9 | | | 5 | | | | 8 | |
| | | | | | 9 | 6 | 4 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета.

Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


# У Ганцавічах жорстка затрымалі і асудзілі журналістаў

**22 чэрвеня ў Баранавічах прайшоў суд над двума нашымі калегамі, журналістамі газеты «Ганцавіцкі час». Іх абвінавацілі ў непадпарадкаванні ўладам.**

Журналістаў **Аляксандра Пазняка** і **Сяргея Багрова** жорстка затрымалі 20 чэрвеня ў Ганцавічах падчас акцыі салідарнасці. Яны адмовіліся выконваць патрабаванне міліцыі сысці з месца падзей і спыніць трансляцыю. Журналісты былі на заданні і выконвалі свае службовыя абавязкі.

У працэсе над карэспандэнтамі ўдзельнічаў юрыст беларускай асацыяцыі журналістаў Алег Агееў.

– Мы адсочваем усе працэсы ў дачыненні да журналістаў. Выпадак у Ганцавічах выбіваецца з агульнай масы. Ён узмацніў рэпрэсіі ў дачыненні да журналістаў. Затрыманне ў час выканання службовых абавязкаў, збіццё журналістаў – гэта абуральныя факты, гэта недапушчальна, – заявіў Алег Агееў.

> **– Журналіст мае права знаходзіцца ў месцах масавых мерапрыемстваў, весці адтуль прамы рэпартаж.**

І вось такое брутальнае затрыманне, спроба не даць журналісту выканаць сваю працу і людзям даведацца пра тое, што рэальна адбываецца, – гэта недапушчальна.

Журналістаў Аляксандра Пазняка і Сяргея Багрова прызналі вінаватымі. Аляксандр павінны сплаціць штраф 810 рублёў. А Сяргею прысудзілі 15 сутак.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **У ноч з 23 на 24 чэрвеня 1941 года масава расстралялі вязняў Ашмянскай турмы. Кожнаму звязвалі рукі калючым дротам, часам завязвалі рот, а потым заводзілі ў падвал суседняга будынка былога староства. Там забівалі стрэлам у патыліцу.**

## 27 чэрвеня, субота

**Вецер:** паўднёвы, 3-4 м/с




Усход 4.40
Захад 21.51
Даўжыня дня 17.11

Усход 11.53
Захад 1.06
Месяц расце

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература +5,4°C у 1984 годзе
Максімальная тэмпература +28,9°C у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,8 мм у 1979 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Падпіска на 2-е паўгоддзе не спыняецца!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

**Падпісацца на «РГ» можна заўжды:**

- **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструемся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 632122. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 96 капеек,
- на квартал – 14 рублёў 88 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16 рублёў,
- на квартал – 48 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Якое самае важнае права ў чалавека?

**Дзмітры Русецкі, інжынер па ахове працы, Маладзечна:**
– Права на жыццё, на свабоду слова і недатыкальнасць.



**Вольга Храмец, аператар ЭВМ у вілейскай гімназіі №2:**
– Самае важнае права чалавека – права на жыццё. Ніхто не мае права адабраць жыццё чалавека. Лічу не менш важнымі правы на адукацыю і ахову здароўя. Бо самае каштоўнае, што ёсць у чалавека – гэта здароўе.



**Ілля Гаўрыленка, будаўнік, Маладзечна:**
– Свабода слова! А то бачна, як цяпер усё адбываецца.



**Юлія Жук, гаспадыня, Вілейка:**
– Мне здаецца, гэта права на годнае жыццё. Чалавек павінны атрымліваць зарплату, каб жыць, а не выжываць. Яшчэ права на свабоду слова. Павінна быць права выбару, а не пагаджацца з тым, што навязваюць супраць волі.



**Сяргей Лулевіч, прадпрымальнік, Маладзечна:**
– Права выбару.



**Арына Тархан, студэнтка, Маладзечна:**
– Самае важнае права – гэта права на слова, права на выказванне свайго меркавання без наступстваў. Для мяне гэта заўсёды было важна, бо часцей за ўсё, калі цябе нешта не задавальняе, табе страшна выказаць свой пункт гледжання, бо разумееш, што пасля гэтага можа быць.



**Павел Дакурна, будаўнік, Вілейка:**
– Самае важнае – права свабоды слова і выбару.



**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№26 (1313) 26.06.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1047. Падпісана ў друк у 9.00 25.06.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.